Дадатак да „Камунара Магілеўшчыны“.

ПРАЛЕТАРЫ УСІХ КРАЁЎ ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# ЧЫРВОНААРМЕЕЦ

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ У МЕСЯЦ

№ 10 Серада 15 студзеня 1930 г. № 10

# Пераменьнік, тваё месца ў калгасе!

## Бяры прыклад з актывістаў 10-ай батарэі

## Па кулацкай агітацыі, хлусьне аб калгасах—агонь!

## Пераменьнікі у калгасы!

Пераменьнікі нашага палка да гэтага часу не зьяўляюцца прыкладам у справе калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Пакуль што мы маем уступіўшых у калгасы 40 чалавек і запісалася ва ўноў арганізуемыя калгасы—11.

Нават маюцца прыклады, калі пад уплывам кулацкай агітацыі некаторыя пераменьнікі, уваходзячы ў калгасы разбазарваюць жывёлу і наогул маёмасьць, гаворачы: „Як пайду ў калгас там мне дадуць“!

А пераменьнік павінен быць прыкладам. Вось актыў 10-ай батарэі ўступіў у калгас, а за ім пайшлі іншыя бедлякі і серадпякі.

Ідучы ў калгас трэба пільна сачыць, каб туды не пралез кулак, а ён імкнецца да гэтага, каб узарваць калгас з сярэдзіны. Кулак гаворыць: „прыміце мяне ў калгас, усё аддам“. Пралезшы ў калгас, ён будзе імкнуцца разваліць яго; такіх прыкладаў мы маем шмат.

У нашым раёне кулакі вядуць такую супроцькалгасную агітацыю: „з калгасу старых выганяюць, як непрацаздольных, у калгасе голадам замардуюць, пойдзеш з торбай па сьвету“—а жанчыну кулак імкнецца запужаць іншай байкаю: „у камуне „Зара“,—гавораць кулакі—жанчыну за адказ падаіць кароў, пасадзілі ў турму на 6-ць месяцаў“. Кулакі не перастаюць цкаваць калгас „Парижская коммуна“, яны гавораць: „у калгасе гультаі, і, каб не артполк, дык зямелька засталася-б не засеянай“. Не спраўдзіліся кулацкія надзеі: калгас расьце і мацнее!

Выкрыцьцё кулацкай хлусьні і бязьлітасная барацьба з кулацкай агітацыяй супроць калгасаў—галоўнейшая задача пераменьніка.

Пераменьнік ня можа стаяць у баку ад калектывізацыі, ён пайшоў ужо туды, каб будаваць новую гаспадарку.

*Арцём.*

## Тварам да калгасаў

Адбываючыйся вялікі зрух асноўных бядняцка-серадняцкіх мас да калектывізацыі сельскай гаспадаркі, суцэльная калектывізацыя нашай акругі, не павінна прайсьці міма частак дывізіі. Некаторыя раёны суцэльнай калектывізацыі зьяўляюцца раёнамі камплектаваньня тэрытарыяльных частак.

Адсюль перад часткамі паўстае ва ўсю шырыню асноўная і галоўная задача: быць штурхачом, лепшым дапаможнікам мясцовым партыйным і савецкім органам у справе масавай калектывізацыі ў сваіх раёнах камплектаваньня, павялічваючы праз усю сыстэму тэрбудаўніцтва арганізаваны ўплыў на пераменьнікаў, рыхтуючы іх да гэтай масавай карэннай ломкі індывідуальнай сельскай гаспадаркі на сацыялістычны лад.

### Цэнтр работы—уцягненьне пераменьнікаў у калгасы

Маючыяся факты сьведчуць аб тым, што некаторыя часткі дывізіі яшчэ не падыйшлі ўшчыльную да гэтага пытаньня, што яны не перавялі сваю работу ў гэтым напрамку на новыя рэйкі, што тэмп разгортваньня работы сярод пераменьнікаў яшчэ не здавальняючы.

У сучасны момант ва ўсёй выхаваўчай палітычнай рабоце з пераменьнікамі перанесьці цэнтр на ўцягненьне пераменьніка ў калгасы, падрыхтоўваючы з іх арганізатараў і кіраўнікоў калектывізацыі.

### Не наогул, а канкрэтна

Перад начскладам, партыйнымі і камсамольскімі арганізацыямі неабходна паставіць задачу—вараз-жа ўзяцца за вывучэньне дырэктыў партыі аб калгасным будаўніцтве і практыкі гэтага будаўніцтва ў раёне камплектаваньня часткі.

Сустракаюцца асобныя выпадкі, калі групавод ня можа добра растлумачыць сутнасьць унутранога распарадку калгасаў, парадак работы ў іх, прынцып разьмеркаваньне прыбытку і іншыя практычныя пытаньні. Гэта патрабуе ўнясеньня адпаведных папаўненьняў у праграмы школ партасьветы і палітзаняткаў, каб камандзір мог адказваць не наогул, а канкрэтна.

Асабліва значную ўвагу трэба аддаць вывучэньню сучасных форм і мэтадаў клясавай барацьбы кулацтва супраць калгасаў і ўнутры іх.

### Сыстэматычна вывучаць

Ротным ячэйкам трэба сыстэматычна абгаварваць формы і мэтады ў галіне калектывізацыі ў сваім ротным вучастку. Палкавыя бюро павінны заслухоўваць і абгаварваць даклады па гэтых пытаньнях мясцовых парторганізацый і савецкіх органаў, а таксама тых асоб начскладу, якія выяжджаюць у раён для вядзеньня міжзборавай работы.

### Калгас—цэнтр міжзборавай работы

Калектыўныя гаспадаркі трэба зрабіць цэнтрам нашай работы з пераменьнікамі. У калгасе куды лягчэй прапрацоўваць пераменьнікамі індывідуальныя заданьні і наладзіць рэгулярныя заняткі гурткоў вайсковых ведаў. Зрух у гэтым напрамку ёсьць з боку саміх калгасьнікаў, актыўнасьць пацьвярджаецца фактамі.

Так, у раёне 1-роты №-скага палка самі пераменьнікі толькі што арганізавалі калгас і адначасова пастанавілі адвесьці кавалак зямлі пад стралковы цір і просяць полк дапамагчы абсталяваць яго з боку тэхнічнага.

Трэба дабіцца, каб кожны калгас меў свой вайсковы куток, каб пераменьнікі калгасу знаходзіліся і актыўна работалі ў гуртках вайсковых ведаў.

*Коцікаў.*

## Камбатар, слухай!

У справе суцэльнай калектывізацыі нашай акругі камандзір і чырвонаармеец-пераменьнік павінны прыняць самы актыўны ўдзел. Яшчэ ня ўсюды пераменьнік зьяўляецца адным з застрэльшчыкаў калектывізацыі, нават частка пераменьнікаў цягнуцца ў хвасьце, як, напрыклад, Шпакаў, Чысьцякоў з вёскі Праабражэнску, Чэрнеўскага сельсавету.

Ня ўсе таварышы з начскладу кадру пры выездах на раён зварачваюць належную ўвагу на аб'яднаньне пераменьнікаў у калгасы.

Мной да сучаснага моманту арганізавана ў калгасы 26,6 проц. пераменьнікаў сваёй батарэі, акрамя гэтага арганізавана ў калгасы тры населеных пункты.

**Выклікаю на сацыялістычнае спаборніцтва ўсіх камандзіраў батарэй палка па 100 працантнаму ўцягненьні сваіх пераменьнікаў у калгасы!**

*Камандзір батарэі*

*Гадзоеў.*

## Начсклад запасу павінен вучыцца!

Шпаркі рост тэхнічных сродкаў барацьбы прынёс значнае зьмяненьне формаў і спосабаў сучаснага бою. Сталі значна складанымі пытаньні: кіраваньня войскамі ў баі, пастаноўка войскам задач і іх выкананьне.

У сучасным баі камандзіру вельмі часта прыйдзецца дзейнічаць у складанейшых умовах баявое абстаноўкі, бяз сувязі са старэйшым начальнікам, і не залежна ад гэтага трэба будзе правільна арыентавацца і прыняць правільны разьвязак баявога заданьня.

Начальніцкаму складу запасу трэба пагэтаму ўпарта вывучаць спосабы вядзеньня сучаснага бою, не адстаючы ў гэтым ад кадравага начскладу.

Вопыт паказаў, што для самастойнага ўдасканаленьня ў вайсковых справах нашага начскладу запасу няма належных навыкаў, а зьбірацца на курсы няма іншы раз і часу, няма магчымасьцяў. Каб усямерна палегчыць начскладу запасу вывучэньне вайсковае справы, Магілеўскі акрсавет ТДА-Авіяхэму ў гэтую зіму арганізуе завочныя курсы і канфэрэнцыі начскладу запасу. Гэтая форма вучобы досыць шырока вядома нашай грамадзкасьці, аб ёй шмат пісалася ў часопісі „ТДА-Авіяхэм" (гл. № 18 за 29 год).

Для кіраваньня завочным навучаньнем пры акрсавеце ТДА-Авіяхэму арганізавана бюро завочнага навучаньня, якое будзе, апрача кіраваньня вучобаю, даваць і кансультацыю па ўсіх пытаньнях, зьвязаных з гэтаю справаю.

Посьпех гэтай формы вучобы залежыць ад таго, наколькі сам начсклад запасу адгукнецца на новае пачынаньне, якое дасьць яму магчымасьць вырашыць задачы свайго ўдасканаленьня, сваёй перападрыхтоўкі. Ячэйкі ТДА-Авіяхэму павінны належным чынам дапамагчы і падтрымаць таварышоў, якія распачнуць завочнае навучаньне.

*Гусеў.*

## Ганьба падкулачніку Сідлярову

Суцэльная калектывізацыя—труна для кулачча, і вядома, кулацтва ўжывае ўсялякія сродкі барацьбы супроць калгаснага руху, які захапіў шырокія колы працоўнага сялянства.

Кулак дзейнічае ня толькі непасрэдна сам, а і пры дапамозе так званых падкулачнікаў. Такімі абаронцамі кулацкай лініі калі-ні-калі зьяўляюцца асобныя пераменьнікі.

Вось яскравы прыклад. На сходзе сялян Уланаўскага сельсавету разгарнуліся шырокія спрэчкі па дакладу аб суцэльнай калектывізацыі. Сярод іншых падкулачнікаў выступіў супроць суцэльнай калектывізацыі былы малодшы камандзір артдывізіёну №-скага Аранбургскага палка тав. Сідляраў. Ён прыняў вельмі шчыры ўдзел у выпрацоўцы рэзалюцыі кулацкага зьместу, якая накіравана была супроць калектывізацыі наогул і за пасёлкавую і хутарскую сыстэму. Сідляраў добра ведаў задачы калектывізацыі, але стаў абаронцам кулацкай лініі, бо апынуўся на лейцах у кулацтва.

Ганьба Сідляровым!

*Шагун.*

## Зрывы міжзборавай работы ў Лупалаўскім раёне

Заняткі груп перскладу ў нашым палку праводзяцца не рэгулярна. Некаторыя групы займаліся толькі адзін-два разы, а Нічыпараўская, Даманаўская групы 3 яй батарэі заняткаў не праводзілі зусім.

Лепшае наведваньне заняткаў і рэгулярнасьць іх правядзеньня паказала Сахвійская група: 5 заняткаў з 100 процантным наведваньнем слухачоў.

Актыў пераменьнікаў, што скончыў палкавы сэмінар, часта да сваіх абавязкаў адносіцца дрэнна, за работу груп адказнасьці не адчувае.

Хатнікі і загадчыкі вайсковых куткоў слаба прасоўваюць кнігі ў масы.

Выпісваемая газэта „На Страже" па тыднях ляжыць у сельсаветах, асабліва ў гэтым адзначаюцца Хацкаўскі і Амхоўскі сельсаветы.

Работа вайсковых куткоў і гурткоў арганізавана кепска, асабліва дрэнна ў вёсках Амховая і Махава; у Махаўскім сельсавеце памяшканьне закінута, абсталяваньне „зацьвіло", а сельсавет нічога гэтага ня бачыць хоць і жыве пад аднэй страхой.

*Н. С.*

## З вялікага пяруну—маленькі дождж

Гэта было даўно... Уздумала Зарэцкая моладзь, а асабліва пераменьнікі і дапрызыўнікі, з'арганізаваць вайсковы куток. На іх ініцыятыву вельмі ахвотна адгукнуўся Шклоўскі дапрызыўны пункт. Сельсавет даў памяшканьне і шафу пад бібліятэку.

Заварушылася моладзь.

Аўтарытэт пераменьнікаў узьняўся, ды як-жа яму і ня ўзьняцца, калі праз два-тры дні работай ахапілі 50 чал. З ахвотаю вывучалі вайсковую справу. На свае сродкі выпісалі „Красноармейскую Правду", купілі вайсковую бібліятэчку з 40 кніжак і інш.

Хараство. Кожны тыдзень—сход, стральба ў ціры і г. д. Прыпёр сваю вінтоўку вясковы камсамолец Шавелька, купілі патронаў на 5 рублёў і пашла справа.

Абяцалі дапамагаць камандзіры, але гэта засталося пакуль на паперы. Усё ішло добра, працягвалася праца, а потым...

Наступіла вясна... Прышоў прыгожы май... Куды там займацца, трэба-ж і пагуляць. Так гаварылі сябры бюро вайсковага кутку пераменьнікі Раськін і Есененак і адпускнік, цяперашні старшыня сельсавету, тав. Уласенка. Вось і гуляюць да гэтага часу. А калі дапрызыўнікі ставілі пытаньне пра перавыбары кіраўнікі ўсё адцягвалі, а работы як ня было. Усё загінула і грошы, і сілы, і куток з гуртком. Але, што гэта для гультаёў? У іх галава не баліць!

*Прыдняпроўскі Я.*

## Пераменьнік павінен стаць калгасьнікам

Група пераменьнікаў, працуючых пры Брылеўскай школе, атрымала выклік на сацспаборніцтва ад групы працуючай у Машанаках, у якім машанакаўцы адным з пытаньняў выклікаюць „прыняць шчыры ўдзел у справе калектывізацыі вёскі".

Брылеўцы выклік прымаюць з наступным дадаткам: **„усім да аднаго пераменьнікам быць прыкладам для насельніцтва ў справе калектывізацыі, усім да аднаго на працягу гэтае зімы зрабіцца калгасьнікамі.**

*В. Лішанкова.*

# Праца ваенізацыі насельніцтва на задворках

## Ні кіраўніцтва, ні працы ТДА-Авіяхэму

### На пленуме акрсавету ТДА-Авіяхэму

Пра работу Авіяхэму Магілеўшчыны можна судзіць па адносінах членаў акрсавету да сваіх абавязкаў. Так, на другі дзень работы апошняга пашыранага пленуму зьявілася толькі 5 асоб, і то абраныя ў прэзыдыум, а ў аўдыторыі сядзела толькі 15 прадстаўнікоў раёнаў. Вось да чаго звузіўся пашыраны пленум.

Аб становішчы працы ТДА-Авіяхэму ў раёнах матар'ял сьведчыць тое, што „ў раёнах нехта нешта робіць, але цяжка дабіцца што, у чатырох раёнах райсаветаў зусім няма, маса працуе сама, у кіруючыя органы павыбрана „начальства“, а гэтай абранай часткі нідзе ня знойдзеш, адказнасьці ў рабоце ніхто не адчувае“ (з дакладу т. Самахвалава).

### Ні савету, ні ячэек

У сваёй справаздачы старшыня Шклоўскага райсавету, нач. міліцыі, тав. Каралёў сказаў:

— Райсавету ў нас няма. Я самазванец, ня выбраны, ніякіх пленумаў і канфэрэнцый, якія-б зьбіраліся, зусім ня помню. Склікаў я сем разоў пленум, але апошні ні разу не сабраўся. Запазычанасьць акрсавету за вінтоўкі і патроны—400 рублёў ёсьць, а як іх спагнаць невядома.

### Праз міліцыю склікаюць пленум

Старшыня райсавету Касьцюковіцкага раёну, работа якога лічыцца, паміж іншым, у акрузе паказальнай, кажа:

— „Калі акрсавет трэба біць толькі бізуном, дык райсавет—добрым паленам. Юрыдычна у Касьцюковіцкім раёне існуюць 24 ячэйкі, райсавет склікаў тры разы, міліцыянэры пад распіскі даручалі абвяшчэньні, а ўсё-роўна ніхто не зьяўляўся. Большасьць ячэек нешта робяць, некаторыя развальваюцца. У Бялынкавічах работа крыху ажыўляецца“.

Вось два райсаветы, адзін „апошні“, другі самы „першы“—зьяўляюцца паказальнікам работы ТДА-Авіяхэму Магілеўшчыны“.

### Начсклад кадру слаба зьвязан з камандзірамі запасу

На старонках нашай газэты мы пісалі пра работу сярод начскладу запасу, праводзімай акрсаветам ТДА-Авіяхэму супольна з праўленьнем Дому Чырвонай Арміі.

За апошні час праведзена два вечары, на якіх прысутнічала да 250 чалавек. Буйнейшы недахоп вечароў —гэта амаль што поўнае адсутнічаньне на іх начскладу кадру.

Зараз уводзіцца завочнае навучаньне камандзіраў запасу. Гэта дасьць магчымасьць кожнаму камандзіру самастойна працаваць па рашэньні той ці іншай вайсковай задачы, выявіць здольнасьць і ўменьне кожнага рашаць яе, дасьць неабходны вопыт і напрамак да падвышэньня сваёй вайсковай кваліфікацыі.

Задача вельмі важная, да вырашэньня якой мы заклікаем усіх камандзіраў запасу.

*Б—скі.*

## Патрэбна зьвярнуць увагу

Пры Магілеўскім палітасьветтэхнікуму зарганізаваўся атрад дабраахвотнікаў.

Амаль усе камсамольцы і частка беспартыйных студэнтаў запісаліся ў гэты атрад. Адразу ж пасьля арганізацыі атраду акрсавет ТДА-Авіяхэму вылучыў камандзіраў для навучаньня вайсковай справе дабраахвотнікаў.

Зараз ужо дабраахвотнікі займаюцца праходжаньнем вайсковай справы як па тэорыі, так і на практыцы.

Заняткі праводзяцца па днёх адпачынку, па 2 гадзіны ў дзень.

Маецца і адмоўны бок—гэта тое, што на вайсковыя заняткі не зьяўляюцца па 10 і звыш чалавек. Асабліва гэта прыкмячаецца за студэнтамі першага курсу белсэктару. Партыйная і камсамольская ячэйкі павінны на гэта зьвярнуць увагу. Маюцца выпадкі некаторай недысцыплінавасьці дабраахвотнікаў.

*Багдановіч.*



## Не кіраўніцтва, а зьдзекі

Выезд на раён і азнаямленьне з становішчам вайсковай работы сярод насельніцтва паказалі, што гэтая справа пакуль што абстаіць дрэнна.

Ячэйкі ТДА-Авіяхэму працуюць слаба, нават часта ня маюць плянаў работы. Кіраўніцтва месцамі амаль не адчуваецца.

Бываюць і такія выпадкі: Прыяжджае настаўнік у райвыканком за атманьнем пэнсіі, а яму прапануюць: спачатку напішы плян авіяхэмаўскай работы, а потым атрымаеш грошы.

Гэта не кіраўніцтва, а зьдзекі. Неабходна райсаветам і акрсавету Авіяхэму больш правяраць становішча вайсковай работы ячэек Авіяхэму.

*С.*

## „Пралетары“ выклікае на спаборніцтва

Сябры ТДА-Авіяхэму заводу „Пралетары“ ўсе як адзін абяцаюць уцягнуць усіх рабочых у сябры Авіяхэму, надпісаць кожнаму на білеты 4-лётарэі, арганізаваць ячэйку ў падшэфнай вёсцы, наведваць рэгулярна вайсковы гурток. Уцягнуць ня менш, як 50 проц. жонак рабочых у члены ТДА-Авіяхэму.

Акрамя гэтага выклікаем заключыць дагавор на спаборніцтва па гэтай працы завод „Зара“ і цукерную фабрыку „10 Кастрычнік“.

Ад імя сяброў ТДА-Авіяхэму заводу „Пралетары“, сэкратар ячэйкі *Сямёнаў.*

## Настаўнікі не вядуць працы сярод пераменьнікаў

*(Лупалаўскі раён)*

Настаўнікі могуць значна дапамагчы пераменьніку ў прапрацоўцы тых палітычных заданьняў, якія яны атрымоўваюць. Настаўнікі абяцалі дапамагчы, але пакуль што ўсё гэта застаецца на паперы. Большасьць настаўнікаў ніякай дапамогі не аказваюць.

Лепей усіх сярод пераменьнікаў працуюць настаўнікі Кароўчанскай, Хацкаўскай школ і маладыя настаўнікі Чэрнеўскай сямігодкі. А вось Жданаўскім настаўнікам вайсковая работа не па нутру, яны абавязкова знойдуць уважлівую прычыну, абы пераменьнікам ня даць школы для заняткаў.

Трэба, каб сельскія саветы на мясцох зьвярнулі больш увагі на работу настаўніцтва сярод пераменнага складу. Справа падрыхтоўкі байца—наша агульная справа, і ў гэтым настаўнік павінен быць не на апошнім месцы.

*Сауткін.*

# Савгас „1-шы малочны гігант“ МОСПО

У пачатку жніўня 1929 году распачаліся работы па будове скотных двароў для малочнага савгасу „Гігант“, які знаходзіцца ў Мажайскім раёне, ля вёскі Кляменьцева. Агульная зямельная плошча савгасу 5400 гэкт., з іх пад ральлём 3600 гэкт., пад гародамі—750 гэкт., пад лесам—820 гэкт. і пад іныш.—230 гэкт.

Уся тэрыторыя разьбіта на 5 хутароў-фэрм, на кожнай фэрме — 4 скотных двары на 250 галоў кожны. У цэнтры савгасу сканцэнтравана энэргэтычная база. Усе працэсы вытворчасьці у максымуме будуць мэханізаваны—машынная дойка, мэханічная падвозка кармоў і г. д.



**На здымку:** угары—былыя лётнія канюшні, у цяперашні час ацепленыя і скарыстоўваемыя пад карантыны для прыбываючых кароў; унізе—новы кароўнік на 250 галоў.

## На абарону СССР!

У студзені Француская кампартыя арганізуе агітацыйную кампанію—абарону СССР супроць імпэрыялістычнае вайны.

У кампаніі прымаюць удзел дэлегаты, якія езьдзілі ў СССР у дні сьвяткаваньня 12 гадавіны Кастрычнікавае рэвалюцыі.

## Моладзь—у савгаснае будаўніцтва

Адкрылася першая Усесаюзная нарада па ўдзелу моладзі ў савгасным будаўніцтве. На нарадзе абгаварваўся даклад аб пяцігадовым пляне савгаснага будаўніцтва. Сёньня на нарадзе стаіць даклад аб сацыялістычным спаборніцтве савгасаў.

## У Прусіі—сялянскія хваляваньні

Ва Ўсходняй Прусіі адбываюцца сялянскія хваляваньні. Сяляне патрабуюць ад сваіх кіраўнікоў настойлівай барацьбы і ажыцьцяўленьня пастаўленых патрабаваньняў.

Усюды разьвіваюцца чорныя сьцягі, пад якімі зьбіраюцца незадаволеныя сяляне.

## На розшукі амэрыканскага і канадзкага лётнікаў

14 студзеня таварыш Чухноўскі вылятае з Краснаярска на розшукі амэрыканскага лётніка Эйльсона, а таксама Канадзкага лётніка Райда.

## Газэта кампартыі ў Лёндане

У Лёндане вышаў першы нумар штодзённага органа ангельскай кампартыі „Дэйлі-Уоркэр“, надрукаваны ў колькасьці 70 тысяч паасобнікаў.

## Задаволіць прадуктамі, падвысіць зарплату

Саюзны Саўнарком зацьвердзіў плян работы СНК і Савету Працы і Абароны на 1929-30 г. Значнае месца ахвяруецца ў пляне пытаньням задавальненьня насельніцтва харчавымі прадуктамі і падвышэньня рэальнае зарплаты.

Шмат месца адводзіцца ў ім культурнаму будаўніцтву.

## Рабочыя брыгады—у савгасы!

Усьлед за рабочымі электразаводу, а таксама АМО, ДЫНАМА, „Серп і Молат“—рабочыя іншых Маскоўскіх і Ленінградзкіх заводаў бяруць шэфства над савгасамі.

„Чырвоны Пуцілавец“ бярэ шэфства над Севера-Каўкаскім савгасам „Гігант“, Балтыцкі завод—над Данскім вучэбна-паказальным савгасам, тэлефонны завод „Чырвоная Зара“—над Вішэнскім савгасам. Заводы вызначаюць кадры працаўнікоў для адпраўкі ў савгасы.

# У Магілеве

## Пабудова новага вялікага дому

На адбыўшымся апошнім пленуме гарсавету абмяркоўвалася пытаньне аб пабудове новага вялікага дому на 60 кватэр.

Пленум аднагалосна выказаўся за пабудову дому на Першамайскай вуліцы каля дому Працы, прычым мяркуецца дом будаваць з агульнай кухняй харчэўняй, дзіцячым пакоем і г. д.

Пленум даручыў шырока абгаварыць гэтае пытаньне на рабочых сходах. Прыступлена да складаньня праэкту гэтага дому. Дом пачне будавацца ўвясну гэтага году.

## Пабудова новага вадаправоду

Прэзыдыум Магілеўскага гарсавету зацьвердзіў дагавор з Маскоўскім камунбудам на пабудову новага вадаправоду ў г. Магілеве.

Для будаўніцтва новага вадаправоду адпускаецца 350 тыс. рублёў.

## Патрэбна коўзанка

Ужо тры гады Магілеў ня мае коўзанкі.

Зараз прышла зіма—трэба разгортваць зімовы спор.

Дом Чырвонай арміі ўзяўся за гэту справу. Вырашылі зрабіць коўзанку ў агарожы былой Глеба-Барысаўскай цэрквы (па вул. Пляханава), але пажарная каманда адмовілася заліць яе вадой, нават за грошы, матывуе адмаўленьне тым, што няма блізка вады і трэба яе накачваць з р. Дубравенкі.

Потым ДЧА знайшоў іншае месца—пляцок у 3-й школе, але загадчык школы паставіў пытаньне так, што гарадзкі савет адказаў яму ў магчымасьці прадастаўленьня яе для коўзанкі ДЧА. Для абсталяваньня яе патрэбна 600-700 рублёў, а ў ДЧА зараз такіх грошай няма.

У арганізацыі коўзанкі павінны быць зацікаўлены; „Дынамо“, акррада фізычнай культуры, акрпрафсавет. Але „Дынамо“, якое мае 1500 руб., спэцыяльна для пабудовы ў Магілеве коўзанкі, вынесла пастанову—у гэтым годзе коўзанкі не арганізоўваць. Акррада і акрпрафсавет—сьпяць.

*Білецкі.*

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

Хмураму: („Чужымі рукамі жар заграбаць“), перадайце ў насьценную газэту. „В. Л.“—Перадалі камісару артпалка. Баркану: „Няма месца такім Анціпенкам у нашым Савецкім Саюзе“. Не змаглі своечасова скарыстаць. Лапіцкаму («Цьвёрдасьць»), Забайкальцаву: Ня ведаючы адрасу вайскоравў рэдакцыя матар'ялы не зьмяшчае.